Перасылка аплачана рычалтам.

Цана асобнага нумару **20** гр.

№ 4. Вільня, Субота 13 Ліпня 1929 г. Год 1.

# СЬВЕТ



Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Вялікая вул. № 3 кват 10. (над цынкаграфіяй Занеўскага).

„СЬВЕТ" каштуе на год — 8 зал., на паўгоду — 4 зал.; на чверць году — 2 зал., на 1 месяц — 1 зл.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., 2 і 3—25 гр., на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку ў аднэй палосцы.

ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

# Сіла ў Народзе.

За апошні час беларускі нацыянальна-вызваленчы рух у Польшчы перажыў цэлы рад высока-драматычных мамэнтаў, якія ў агульнай суме ствараюць за даволі кароткі час свайго роду эпопэю, эпопэю барацьбы.

Маёвы пераварот у Польшчы і палітыка «памаёвых урадаў» унясла ў вёску падзел і крысталізацыю. Вярхі вёскі, замажнейшая частка, кулацтва — што раз болей пачала пераходзіць у бок гэтай палітыкі. Буйны расьцьвет Грамады ужо пасьля маю 1926 году — гэта яшчэ галоснае рэха «поэндэцкіх» настрояў, калі г.зв. санацыйная палітыка яшчэ не дакацілася да вёскі, ня пусьціла сюды сваіх карэньняў. Грамада, будучы ў сваей аснове партыяй серадняцтва і беднаты ў вёсцы (як, у пэўнай меры, і ў месьце)— увабрала ў свае рады ўвесь незадаволены элемэнт, была на від арганізаваным выбухам тагочасных настрояў ўсяго беларускага насельніцтва.

Такому «адзінаму фронту» унізе ўпаўне адказваў такі-жа фронт «кіраўнічых вярхоў» беларускай інтэлігэнцыі, якая за малымі вельмі выняткамі, стаяла пры Грамадзе, а то — сымпатызавала ёй. Апазыцыйныя Грамадзе арганізацыі, як хадэцыя, сельсаюз, ня кажучы аб створаных ad hoc «полёнофільскіх» групах— ніякае рэальнае сілы не прадстаўлялі. Ліквідацыя Грамады ня зьменшыла, калі так скажам, барацьбяных настрояў і выбары ў Гмінныя Рады ў 1927 годзе ўпаўне падцьвердзілі гэта.

Але разам з гэтым адбываўся працэс адыходу верхніх пластоў вёскі, вытвараны зямельнай рэформай і ўспомненай палітыкай. Поўным паказчыкам гэтага зьяўляюцца выбары да Сойму, пры якіх — нябудзем усяго чыста звальваць на адміністрацыю — пэўная (хіба-ж багацейшая) частка сялянства галасавала за «адзінку». Поруч з гэтым пачаліся хістаньні і сярод беларускай інтэлігенцыі, якая пачала выстаўляць лёзунгі—»творчае позытыўнае працы», »адзінага фронту» і інш. Падчас выбараў ужо бачым відавочны адыход часткі беларускай інтэлігэнцыі ад папярэдняй лініі, выстаўленьне сваіх асобных сьпіскаў.

Працэс, як унізе, гэтак і ўвярху, ішоў далей і ўжо ў леце 1928 г. ні для каго ня было сакрэтам існаваньне асобнай групы якую ахрысьцілі пасьля «групай Луцкевіча і Астроўскага» і якая суадказвала гэтай багацейшай, але слабой лічбова, частцы ў вёсцы. Ядро ўсяе працы, як сьцьвярдзілі ўжо і ўрадоўвыя газэты, асталося каля Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу. выяўляючага настроі амаль усяе беларускае (чуць не абсалютна серадняцкай і бедняцкай) вёскі і мескага пралетарыяту.

Новая група павяла зразу рашучую барацьбу за пэнтры супольных яшчэ арганізацыяў, за захоп кіраўніцтва ў Гімназіях, Беларускім Выдавецкім Т-ве і нарэшце — у Т-ве Беларускае Школы. Пры пэўных мэтодах барацьбы ім гэта часткова ўдавалася.

Мусім прызнаць, што сярод беларускай інтэлігэнцыі ёй удалося перацягнуць на свой бок даволі значную частку, аб чым магчыма ёй і хадзіла. Магчыма, што тут выказалася запраўды анархічна-буржуазная ідэалёгія кіраўнікоў гэтае групы, якая ўважала, што важна мець пры сабе інтэлігэнцыю, кіраўнікоў, а масы змабілізаваць можна заўсёды. Так ці інакш — масы за ею не пашлі. Яскравым доказам гэтага — былі зьезды сяброў Т-ва Беларускае Школы, арганізацыі, за якую названая група вяла найбольш упорлівую барацьбу. Нарэшце стала ясным, што тут яна атрымала поўную паражку. А гэта ў сваю чаргу пацягнула консэквэнцыю што да вагі гэтае групы наагул. Запраўды толькі з тою арганізацыяй лічацца, якая апіраецца на шырокіх масах.

І вось нарэшце стаўся факт, якога мала хто мог прадбачыць. На Зьезьдзе, можам сьмела сказаць, сваіх здэцыдаваных прыхільнікаў, выключна за адзіночнымі выпадкамі зложаных з інтэлігэнцыі, на зьезьдзе, які ўлады дазволілі і прызналі за Зьезд Т-ва Беларускай Школы — *уся група аднагалосна выбірае ў Галоўную Управу Т-ва ўсіх тых асоб, якія ўжо выбраны масамі.*

Факт, бязумоўна, аграмаднага значэньня. Вельмі сымптоматычна, што віленская санацыйная прэса маўчыць аб гэтым і толькі эндэцкі «Дзеньнік Віленскі» з перакручэньнем і лічбаў і фактаў падае наступнае:

„Ізноў паражка санацыйнай палітыкі".

„Дня 9 г. м. адбыўся ў Вільні агульны зьезд сяброў Беларускага Асьгетнага Таварыства „Школы", на які прыбыло каля 100 асобаў (ну—тут „грубая" памылка. Гл. справаздачу—Рэд.)

Кіраваў (przewodniczył) былы Грамадовец, цяпер-жа ўгадовец Антон Луцкевіч.

Выбрана новы ўрад Таварыства, а такжа Наглядную Раду, у склад якіх увайшлі паслы Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу: Балынец, Дварчанін, Грэцкі і Крывчык таксама п.п. Пяткун, др. Марцінчык, Лябецкая, Ламашэвічанка і інш. Як відаць, перамагла камунізуючая група Таварыства. „Санацыя", якая ў працягу некалькіх месяцаў сілілася зьнішчыць ў Таварыстве камуністычныя ўплывы (prądy), панясла поўную паражку.

Санацыйная група сяброў Таварыства „Школа", каторая ад часу ліквідацыі(?!) „Школы" ў кастрычніку мін. г. і наступным па новай легалізацыі „Школы", кіравала ўрадам, зусім не вайшла ў склад новага ўраду.

Такім спосабам ўрад стаўся ізноў апанаваны тымі самымі асобамі, каторыя ў сваім часе былі выбраны на нелегальным сабраньні „Т-ва Беларускай Школы" у Вільні."

Ня важна зноў-жа фармальны бок. Важней куды—маральны. *Поўны сукцэс беларускіх працоўных масаў.*

Якія консеквэнцыі пацягне за сабой гэты сукцэс, забягаць наперад ня будзем. Ня можна захапляцца і ружовымі думкамі, што да наступленьня нейкай новай эры ў нацыянальна-вызваленчым руху, тым больш, што Т-ва Беларускай Школы ўжо амаль разьбітае, у чым, пэўна-ж вінаваты ня масы і ня іх прадстаўнікі.

Важней у кароткіх словах выясьніць прычыну гэтага шматкаму нeспадзяванага факту. Дазволім сабе паставіць пяўныя тэзы:

1) пасьля поўнай паражкі на масавым фронце вышэйназваная група згубіла вагу наагул, як грамадзкая група, апынулася ў бязвыхадным палажэньні і шукала сабе выхаду;

2) думаем, што ёй найбольш залежала на прабіцьці «муру няўвагі» да сябе з боку належных чыньнікаў і зрабіць прыгожы «ачышчаючы» жэст у бок працоўных масаў;

3) трэба прызнаць, што сваей пастановай 9-га ліпня, носячай характар сэнсацыі, названая група ставіць належныя чыньнікі ў даволі цікавае палажэньне і проста змушае больш паважна лічыцца з сабой. Гэты мамэнт трэба лічыць найважнейшым з пункту гледжаньня названай групы; фактычна яна ня „хлопнула дзьвярмі," а—»стукаецца ў браму».

4) пастанова 9-га ліпня ў пэўнай мэры разрубае той Годыяў вузел, які перад гэтым так мудра быў завязаны для названай групы — як адбыванай паларызацыяй сілаў, так лічэньнем усіх толькі з рэальнаю сілаю;

5) ня можна думаць, што названая група ішла сьвядома на палітычнае самагубства і што на гэтым скончыць сваю дзеяльнасьць; наадварот яна зусім абдумана рашыла выкарыстаць факт Зьезду, каб у такі арыгінальны спосаб зноў выйсьці наверх, ажыць, як той казачны царэвіч, напіўшыся жывое вады і зрабіўшы пробу «народнага ачышчэньня»;

6) сваей пастановай названая група хоча скінуць з сябе адказнась за лёс Т-ва на варожы ей лягер (позна!);

7) прыймаючы пад увагу ўсё вышэйшае, можам сказаць, што на від ім лоўка удалося праехаць між Сцылай няўвагі нележных чыньнікаў і Харыбдай абурэньня беларускіх сялян і работнікаў. Аднак гэта ня зьменіць сілы і значэньня адбытага факту і для працоўных.

Адно можна канстатаваць. Сіла ў народзе. Сіла ў вялікай сьведамасьці беларускіх працоўных гушчаў, сьведамасьці, якая, ня гледзячы (зноў возьмем вобраз з грэцкай мітолёгіі) на Танталавы мукі — выходзіць з барацьбы пераможнаю. Апісаны факт толькі ўпэўніць гэтыя гушчы, што ў цяжкія хвіліны ня трэба адчайвацца, а цьвёрда стаяць на сваім. Перамогаў ў еднасьці і вытрываласьці.

# Рэпарацыйная канфэрэнцыя і плян Юнга.

Як ведама, пераможныя дзяржавы ў вайне 1914-17 г., прызналі віноўніцай яе Нямеччыну. Дзеля гэтага ўсе страты, якія прынесла сусьветная вайна, па пастанове гэтых пераможных дзяржаў, мусіла пакрыць Нямеччына, У гэтай справе былі склікаíны г. зв. рэпарацыйныя канфэрэнцыі, якія мелі$я апрацаваць плян рэпэрацыі паваеннага пераможнага капіталістычнага сьвету і, аблічыўшы кошты гэтага пляну, налажыць на Нямеччыну адносную кантрыбуцыю.

У 1919-20 гадох сума ўсіх нямецкіх рэпарцыяў складала 250 мільярдаў залатых марак.

У 1921 г. гэтая сума была зьніжана да 132 мільярдаў марак, а ў 1923 годзе — да 50 мільярдаў.

Сьпярша гэтая рэпарацыя мелася сплачвацца паводле пляну Даўса, па якому плацяжы Нямеччыны выражаліся ў суме 2 мільярдаў 500 мільёнаў залатых марак у год. Аднак, на пятым годзе істнаваньня гэтага пляну, выявілася ўся яго фантастычнасьць, бо зрабілася відавочнай праўдай немагчымасьць доўгага выкачваньня з нямецкае гаспадаркі такой вялізарнай сумы рэпарацыйных узносаў.

І вось паўстала пытаньне аб зьнясеньні пляну Даўса. Але Нямеччына заместа таго, каб адмовіцца зусім ад плацяжу, згадзілася яго плаціць у зьменшаным разьмеры. На сёлетняй рэпацыйнай канфэрэнцыі ў Парыжы, якая складалася толькі з васьмёх прадстаўнікоў ангельска-амэрыканскага і француска-нямецкага капіталу, прыняты новы плян, запрапанаваны амэрыканцам Юнгам.

Новапрыняты гэты плян сапраўды паніжае суму рэпарацыйных узносаў на працягу першых 37 год больш як на поўмільёна. Сума штогодніх выплат ў процілежнасьці да пляну Даўса, ёсьць зьменная, не перавышае аднак у сваёй канчаткавай фазе двох з паловай мільярдаў. Гэта пазбаўляе нямецкай буржуазіі страху, што з паступовым палепшаньнем гаспадарчага жыцьця Нямеччыны, сума сплат магла-б, па думцы Даўса быць, павышана. Гэтае лічбовае вылічэньне, нібы адзін з найдагаднейшых бакоў новага пляну, траціць сваё значэньне хоцьбы з той прычыны, што даў плян Даўса, руйнуючы амаль Нямецкую гаспадарку.

Паводле пляну Юнга, уся сплата мусіць скончыцца ў працягу 39 гадоў. На працягу першых 17 гадоў нямецкія рэпарацыйныя плацяжы ідуць на пакрыцьцё страт крэдытараў і на плацяжы міжсаюзных даўгоў.

На працягу апошніх 22 год Нямеччына абавязваецца забясьпечыць дзяржавам-крэдытарам пагашэнае іх даўгоў Паўночна-Амэмэрыканскім Злучаным Штатам. Гэтае зьвязаньне пляну Юнга з справаю даўгоў Злучаных Штатаў, **робіць Нямеччыну адзіным даўжнікам Штатаў.** Роля Англіі і Францыі даводзіцца толькі да ролі пасярэднікаў.

У зьвязку з гэтым стварэньне рэпарацыйнага Банку набірае асаблівага значэньня. Банк гэты станецца магутным каналам, праз які амэрыканскі капітал, памінаючы ангельскія і францускія банкі, ў большых яшчэ як да гэтага часу межах, пралезе да эўрапэйскай гаспадаркі.

Дзеяльнасьць рэпарацыйнага Банку будзе рабіць уплыў безпасярэдня **ня толькі** на сплату рэпарацыяў. Апэрацыі гэтага банку будуць мець рашаючае значэньне для гаспадарчага жыцьця Нямеччыны і будуць ад яго незалежныя. Кіраўнічую ролю ў управе Банку будуць мець прадстаўнікі амэрыканскага фінансавага сьвету.

Прадстаўнікі гэтыя будуць фінансаваць нямецкі экспорт і будуць кіраваць ім па думцы інтарэсаў амэрыканскага капіталу, хаця-б гэтыя інтарэсы былі ў супярэчнасьці з інтарэсамі Нямеччыны.

Невялічкім палітычным эфэктам да пляну Юнга будзе эвакуацыя Рэйну. Гэтая эвакуацыя (калі яна будзе праведзена) для Нямеччыны мае вялікае палітычнае значэньне. Аднак, калі успомніць, што гэтая эвакуацыя ў аднэй частцы павінна мець месца ўжо ў 1930 годзе, а поўнасьцю — у 1935 годзе, дык каштоўнасьць гетага „дадатку“ акажацца значна зьніжанай.

Такім чынам, прыглядаючыся да ўсяго вышэйсказанага, можна сьцьвердзіць, што з „фармальнага“ боку Нямецкая гаспадарка нібы атрымала поўную „палёгку“, аднак фактычны бок гэтай „палёгкі“ вельмі сумліўны.

Сусьветная буржуазія за кошт вось гэтых нібы „уступак“ пасталася замацаваць сваё палажэньне ў нямецкай гаспадарцы і такім чынам зрабіла ўсё тое, каб мець яе ў капіталістычным антысавецкім блёку“. „Свой пазнаў свайго“. Як не „дагаварвалася“ Нямецкая буржуазія з СССР, як яна „нэйтральна“ ня трымалася, аднак — „воўка ў лес цягне“.

Што нясе плян Юнга Нямецкім працоўным масам — ня цяжка дадумацца. Усялякі гаспадарчы крызыс, застой у прамысловасьці ня б‘е так па капіталісту, як па работніку. Нямецкаму пралетарыяту прыходзіцца трымаць на сабе ня толькі сваіх паноў капіталістаў, але сваей працай сплачваць рэпарацыйныя расходы для адбудовы капіталістычнай сыстэмы і напэўна-ж падгатоўку новых войнаў. Дзеля гэтага зусім зразумелы тыя прычыны, якія выклікалі тое паляпеньне нямецкага пралетарыяту і завастрылі барацьбу сацыял-угоды з яго выступленьнямі за „права вуліцы“ у дзень Першага Мая.

І вось у той час, калі нямецкая буржуазія пайшла на павадку антысавецкага блёку,—нямецкі пралетарыят у работніцкіх кварталах Бэрліна кроўю прыпячатвае сваю гатоўнасьць да барацьбы за лепшае заўтра.

К.

# Што чутно у Польшчы.

## Банкруцтва фабрыкі „Вайцехаў.“

Як падае „Gazeta Warsz.“ (5.VII), — увядомай ўва ўсей Польшчы фабрыцы мэбляў „Вайцехаў“ у Каменску пад Радомскам паўстала спрэчка (zatarg) на грунце невыплачваньня заробкаў работнікам.

Спрэчка дайшла да такіх вострых формаў, што да Войцехава прыехаў старшыня гэтага Таварыства п. Грабоўскі, які нібы меў прывязьці грошы на выплату.

Аднак аказалася, што старшыня Грабоўскі грошай ня прывёз, а дэлегатам работнікаў заявіў, проста, што фабрыка збанкрутавала з прычыны кепскай гас адаркі управы, пры чым парадзіў работнікам, каб стараліся аб пэўным забясьпечэньні належнасьці, бо фабрыка ня мае ніякіх фундушаў, для урэгуляваньня іх прэтэнзій...

...Агульныя залегласьці платы „wiezrytylności“ работніка і урадоўцаў у стасунку да „Вайцехова“ выносяць 170.000 злотых.

## Савецкія закупы ў Горнай Сілезіі.

(Кур‘ер Варшаўскі 23.VI).

У наступным тыдні прыяжджае ў Варшаву дэлегацыя горнасілезкіх прамыслоўцаў з мэтаю падпісаньня новае умовы з СССР. Гандлёвае прадстаўніцтва СССР закупіць гэтым разам жалеза і сталь на агульную суму 750.000 даляраў. Па інструкцыі ў справе гэтых закупаў прадстаўніцтва выдэлегавала свайго сябру ў Маскву.

## Забастовачны рух сельска-гаспадарчых работнікаў на Украіне.

Апошнія часы прыносяць з сабою магутную хвалю забаставак вясковай беднаты на украінскіх землях, якая што-раз то ўсё больш завастраецца. Цяжкае палажэньне вясковага пралетарыяту і поўпралетарыяту, завострываныя з кожным днём клясавыя супярэчнасьці і т. д. ўсё гэта прымушае сельска-гаспадарчых работнікаў выступаць на актыўную барацьбу з абшарнікамі і кулакамі.

У папярэдніх нумарох мы каротка паведамілі аб разьмерах гэтых забастовак. Цяпер-жа газэты ізноў прыносяць весткі аб новых выбухах забастовак і аб росьце і ўзмоцненьню папярэдніх.

**І так у Бабрэччыне забаставалі** дзенныя работнікі вёсак: Барынічы, Остраў Чорны, Ляшкі, Баручы, Руда, Красна Гара, Юшкоўцы, Драговічы і Гарадышча. Бастуючыя дамагаюцца: 8-мі гадзіннага дня працы, пабольшаньня платы ад 2,50 зл. да 4.00 зл. (дагэтуль працавалі ад 1 зл. 25 гр. да 1 зл. 50 гр.). Дагэтуль касілі канюшыну на 12 капіцу (часьць), цяпер дамагаюцца кашэньня канюшыны на шостую капіцу, сена на трэцьцюю, а атавы на другую бяз усякіх дадаткаў.

**Забастоўка на абшары Жаўкоўшчыны** пры мэльёрацыйных працах у вёсцы Любэля і на лясных працах работнікаў прадаўжаецца ўжо некалькі тыдняў. Ёсьць значныя перамогі.

**Ужо шэсьць тыдняў бастуе 220 работнікаў** на 7 цагельнях пад Перамышлем. Сельска-гаспа-

# Справа нацыянальных меншасьцяў у Мадрыце.

53-яя сэсія Р. Л. Нацыяў, адбытая ў Лугано, закончылася, як ведама, знамянітай бурнай сутычкай паміж Залескім і Штрэзэманам 15-XII-1928, у выніку якой апошні заявіў, што на наступнай сэсіі Рады Нямеччына рубам паставіць на чаргу дня ня толькі урэгуляваньне правоў нямецкай меншасьці у Польшчы, але і наагул — „прынцыпова і практычна усю праблему рэальнай аховы правоў і інтэрэсаў у Лізе, каб грунтноўна і суцэльна высьветліць, што робіць, і што мае абавязак рабіць Ліга у гэтай справе“...

„І калі аказалась, закончыў, падняўшы голас Штрэзэман, што Ліга Нацыяў падзяляе пагляд Залескага, што „няварта марнаваць дарагога часу гэтага высокага Сабраньня на такую дробную справу,“ тады трэба было-б выразна сьцьвердзіць, што Ліга Нацыяў сама пазбавіла сябе аднаго з сваіх фундамэнтальных слупоў і ня служыць ўжо больш таму ідэалу, дзеля якога дзяржавы увайшлі у гэты Саюз“...

Так распачаў гэты буржуазны „абаронца“ правоў пашчэпаных на трэскі народаў свой спраўны але няўдалы, як пабачым далей, паход проці магутных пакуль што дзяржаўных валадыроў так зв. „недзяржаўных народаў,“ ці нацыянальных меншасьцяў у Эўропе.

Каб зразумець крыніцу, матывы, а таксама і межы гэтай „шляхотнай офэнзывы“ нямецкага міністра, а з другога боку—яе сілу, трэба ведаць, што такое гэтая „праблема меншасьцяў“ прадстаўляе для Нямеччыны і для яе палітычных праціўнікаў, дый наагул — для так зв. „Новай Эўропы“.

У аднэй толькі Эўропе, з гэтага ліку — аж 9 мільёнаў Немцаў, якія у сваей вялікшай частцы 2/3 дасталіся „найвялікшым векавым нацыянальны ворагам нямецкага народу“.

Найляпей характарызуе ролю меншасьцявай справы ў сучаснай Эўропе сама рэакцыйная і „лібэральная“ прэса пераможцаў, распачаўшая ураганную контр-атаку проці Штрэзэмана за яго заяву і падрыхтоўку да „бою“...— „Справа меншасьцяў, гэта-ж — дынаміт XX в., гэта — найбольш дынамітавая справа з усіх, якімі толькі падумоўлены грунт сучаснай Эўропы“... „Прэтэнзіі меншасьцяў, гэта-ж запраўдныя брызантныя гранаты, пакладзеныя амаль ня ў кожнай паваеннай дзяржаве немцамі і бальшавікамі“... Так пісалі, літэральна пішуць і цяпер Францускія газэты („Liberte“. і інш) прычыны „нямецкай інтрыгі Штрэзэмана“...

Запраўды-ж, гэта амаль ня поўная адсутнасьць „меншасьцявага дынаміту“ у Нямеччыне (штосьці—каля 2°/₀, у тым ліку 800 т. палякаў) а з другога боку,—9 мільёнавыя нямецкія меншасьці у чужых „заборах“ — усё гэта робіць немцаў як быццам найлепшымі абаронцамі меншасьцявай справы наагул...

Справа меншасьцяў, як абураецца праціўная нямеччыне прэса, дае абезброеннай быццам Нямеччыне „новае аружжа, дае магчымасьць Штрэзэману вясьці з сваімі праціўнікамі вельмі спрытную гульню, выкарыстываючы выгаднае палажэньне Нямеччыны - вытаргоўваючы—пад пагрозай „узрыву дынаміту“ пад усім фундамэнтам новай Эўропы!—**для Немцаў** рожныя бягучыя карысьці... Якім коштам, гэта пабачым у далейшым аглядзе ходу штрэзэманаўскага „наступленьня“...

Аднак-жа, як можна было прадбачыць, абодва лагеры у Лізе не сьпяшылі распачынаць запраўдную вайну: паміж буржуазнымі дзяржавамі—пры усіх „выбуховых“ супярэчнасьцях — заўсёды ёсьць шмат першарадных супольных інтарэсаў, якія прадстаўляюць цьвёрды грунт“ для паразуменьня...

Так сталася і ў гэтай справе.

Наступная сэсія рады-у сакавіку г. г.—па сутнасьці **адлажыла справу** да чэрвеневай. Рада выбрала „Камітэт трох“ (Штрэзэман трэбаваў пяцёх.)

У складзе дакладчыка справы Адаччы (Японія.) Чэмбэрлена і Квінонэса дэ Леон (Гішпанія), якому даручыла-на падставе адбытай дыскусіі і прадстаўленых дзяржавамі мэмарыялаў — зрабіць даклад чэрвеневай Радзе—аб тых зьменах, якія магчыма зрабіць у ходзе меншасьцявых скаргаў у Лізе.

Уся прэса згодна сцьвердзіла, што ужо на гэтай сэсіі у сакавіку Штрэзэман пацярпеў рашучае паражэньне. Брыян, Чэмбэрлен, дэлегаты Італіі, Мал. Антанты, ня кажучы ужо аб Польшчы, усе дзяржавы—валадары меншасьцяў—рашуча падтрымалі „польскую тэзу“, як выражалася польская прэса, і адкінулі згары „тэзу нямецкую“. Чэмбэрлен кінуў нават у бок Штрэзэмана „крылатае слова“ — аб „чыстых руках“, з якімі трэба падыходзіць да справы меншасьцяў“ (каб лепш... задушыць яе, відаць)

Таму лёгка было згары-ж прадбачыць, якога зьместу будзе даклад „Камітэту Трох“.

— —

# Весткі з заграніцы.

## Вялікая забастоўка ў Новым-Ёрку.

Амэрыка заўсёды славілася, як самы багаты край, дзе „прамысловасьць у сваім разьвіцьці ня мае ніякіх перашкодаў". Аднак за апошнія часы даходзяць весткі, што па ўсіх Паўночна—Амэрыканскіх Злучаных Штатах праходзіць хваля забастовак.

Гэтак у Новым-Ёрку у вялікіх канфэкцыйных дамах выбухла забастоўка 15 тысяч работнікаў і работніц.

## Амэрыка вядзе гутаркі аб разбраеньні, але не забываецца будаваць новыя браняносцы.

Апошнімі часамі буржуазыйныя газэты шырока абгаварвалі справу разбраеньня, за якую нібы бяруцца Паўн.—Амэр. Злучаныя Штаты і „работніцкі" урад Макдональда, вядучы на гэтую тэму перагаворы.

У гэтай справе, як і ў іншых яшчэ справах... Макдональд нібы меўся паехаць ў Амэрыку.

Што ў запраўднасьці азначаюць гэтыя гутаркі, паказвае наступны факт:

Даносяць з Вашынгтону, што урад судаходзтва заключыў умову ў справе будовы 5 новых браняносцаў з завартасьцю 10.000 тонн.

## Ізноў хваля забастовак у Індыі.

Забастовачны рух у Індыі ня толькі ня ліквідуецца, але яшчэ завастраецца. Індыйскія працоўныя масы і авангард іх бамбэйскі пралетарыят, стаўшы на грунце барацьбы за свае правы, з яго ня зыходзяць.

Гэтак даносяць з Бамбэю аб новай хвалі забастовак у тэкстыльных фабрыках. Работніцы, якія ў канцы красавіка вярнуліся да працы, кідаюць яе масава ізноў. Высока характэрыстычнай рэччу ёсьць тое, што вельмі шмат работнікаў кідае места і пераходзіць у вёскі. У працягу апошніх трох дзён выйшла з самога толькі Бамбэю да 10.000 работнікаў „Маем тут справу, піша „Усходняя Агэнцыя", з арганізаваным рухам павароту у вёску, пад лёзунгам „джунгля (пушча) ёсьць нічыя, ідзем там асяліцца". Калі гэта новым каляністам будзе паводзіцца, дык гэты рух у кароткім часе можа пацягнуць за сабою большасьць гарадзкога пралетарыяту, што прычыніцца да спыненьня шмат якіх фабрык".

## Забастовачныя разрухі ў Баўгарыі.

У Баўгарскім месьце Слівэм забаставала каля 2.000 работнікаў тэкстыльнага промыслу.

Ужо па першым дні забастоўкі дайшло да крывавых сутычак паліцыі з бастуючымі работнікамі.

У фабрычны будынак кінулі бомбу з вялікай выбуховай сілай, дзякуючы якой зьнішчаны ўсе машыны.

## Разбудова савецкай прамысловасьці.

У папярэдніх нумарох мы у кароткіх рысах падалі сутнасьць увядзеньня пяцігадовага пляну гаспадарчага і культурнага разьвіцьця Савецкага Саюзу, намечанага на пятым зьезьдзе Саветаў.

Але вось, нядаўна буржуазыйная прэса ізноў прыносіць шэраг фактаў, якія выразна прадстаўляюць буйнае разьвіцьцё Савецкай прамысловасьці.

Савецкі ўрад завязаў 12 умоваў з амэрыканскімі прамыслоўцамі.

Форд бярэцца зарганізаваць у Савецкім Саюзе аўтамабільную прамысловасьць, якая будзе каштаваць 30 мільёнаў даляраў.

Аднак нямецкая прэса кажа, што ўмова з Фордам ёсьць толькі адной з пасярод вялікіх умоваў. Ново-Іоркскі карэспандэнт „Фосс. Цэйтунг" пералічае наступныя з тых вялікіх умоваў:

Умова з фірмаю „Hugh L. Coopez Company" прадугледжывае пабудову на Украіне вялікай вадзяной электроўні, **найбольшай у цэлым сьвеце,** якая будзе каштаваць 100 мільёнаў даляраў.

„Me Cormick Company" мае збудаваць у Маскве вялізарную мэханічную пякарню;

International Electro Company" бярэцца за працу над рэарганізацыяй электратэхнічнай прамысловасьці ў Расеі, даючы ёй таксама ўсіх сваіх патэнтаў;

„Treyn Engineerinng Company" будзе кіраваць рэарганізацыяй савецкай сталёвай прамысловасьці, пры чым інвэстыцыі ў гэтай галіне аблічаны на I мільярд даляраў;

„Radio Comparation of Ameryća" будзе працаваць у кірунку рэарганізацыі рад'ёвай прамысловасьці Саветаў;

„Zu Pont de Nemonrs Company" займаецца арганізацыяй прадукцыі штучнага ўгнаеньня;

„Stuart, James and Cook" --стварэньнем новых капальняў вугля і модэрнізацыяй старых;

„Nitrogen Engineering Company" — арганізацыяй азатовай прамысловасьці;

„Longacre Engineering Company" — будовай дамоў для пражыцьця ў Маскве;

„Albert kahń Ine" — арганізацыяй будовы фабрыкі трактараў, якая будзе вытвараць што год 40 тысяч трактараў;

„Arthur P. Davis" маецца урэшце заняцца наваднеьньнем плянтацыяў бавоўны ў азыяцкай Расеі.

Усе гэтыя ўмовы палягаюць галоўным чынам на дастаўленьні амэрыканскімі прамыслоўцамі машынаў і тэхнічных сілаў для будовы гэтых новых фабрык і кіраўніцтва імі.

Вось, як „заняпадае" гаспадарка.

# Весткі у тры радкі.

—**На станцыі** Плашахай—Кракаў здарылася чыгункавая катастрофа. Раненых 40 чалавек.

— **Яшчэ адна катастрофа** па лініі Загужаны-Кружы. 40 вагонаў выляцела з шынаў, 6 разьбіта.

— **У капальні** вугля ў Яворржыне звалілася каля двух вагонаў вугля і засыпала 46 гадовага гарняка.

— **Запраэктаваны** палац Лігі Народаў мае быць пабудованы за 124 мільёны франкаў. Вось на што ідуць мільёны у той час, калі мільёны работнікаў ня маюць даху над галавой.

— **У Бэрліне** адбываецца працэс раду расейскіх чорнасоценцаў, на чале з Арловым, якія фальшавалі савецкія дакуманты.

— **У Горадзенскай турме** адседжвае кару агулам 597 асоб, у гэтым ліку мужчын 545, жанчын 52.—З агульнага ліку вязьняў, карных сядзіць—276, сьледчых — 321.

— **150 амэрыканскіх мільянэраў** з Вандэрблітам на чале маюць замер адведаць СССР. Што-ж, няхай падзівяцца!

— **Акружны суд у Горадні** разглядзеў 11 тысяч цывільных і 13 тысяч карных спраў за час 10-цідовага істнаваньня.

— **30 чэрвеня** г. г. на станцыі Малкіна абакралі арцыбіскупа Ялбжыкоўскага. Агулам украдзена рэчаў на 2.000 зл..

— **Зрэдукаваны работнік** хацеў застрэліць дырэктара згерскай мануфактуры Марчонскага, але не папаў.

— **У Празе** адбыўся кангрэс украінскіх эмігрантаў, які выразіў даверра „украінскаму народнаму ўрапу", на чале якога пасьля за-

дарчыя работнікі ў в. Радкове трымаюцца салідарна ў забастоўцы, дзе былі ўжо сутычкі з паліцыяй, пры чым ёсьць раненыя і арыштованыя.

**У вёсках Дэрэўна і Кулява** 19 чэрвеня пачалася забастовачная акцыя ў сувязі з касьбой на абшарах двароў. Дасюль абшарнікі гадзілі касароў за 6-7 капіцу, апрача таго вымагалі ад іх яшчэ па два мэтры палатна, дзьве курыцы і дарма выжаць па аднаму маргу поля. Забастовачны камітэт дамагаецца пятае капіцы і скасаваньня ўсіх дадаткаў.

**У в.в. Андрыянаў, Лоўчыцы і Падзьвярынец** бастуюць касцы, дамагаючыся, пабольшаньня платы, 8-мі гадзіннага дня працы і інш.

Стараста пагражаў, што прышле войска. Аднак сяляне украінцы і палякі салідарна стаяць за паправу свайго быту.

У Зьнясеньню ад 21-га чэрвеня бастуе каля 80 работнікаў фабрыкі штучнага угнаеньня. Дамагаюцца падвыжкі платы.

**У Брыдшчыне** на хмелярнях прадаўжаецца салідарная забастоўка ўжо некалькі тыдняў. Работнікі салідарна стаяць за паправу свайго быту.

**Забастоўка сельска-гаспадарчых рабочых у вёсках: Лысятычы, Пукінічы, Каўска, Угрэска, Дабраўляны, Воўна і Дабрана** прадаўжаецца ўжо доўгі час. Ня гледзячы на арышты правадыроў забастоўкі работнікі усе, як адзін трымаюцца салідарна. Настрой бадзёры.

**У Раўшчыне** паміж бастуючымі і падкупленымі штрайкаломамі адбываюцца частыя крывавыя масакры. Аднак, ня гледзячы на подкупы несьвядомых работнікаў, ня гледзячы на цэлы шэраг іншых рэпрэсіяў, забастоўка прадаўжаецца і пашыраецца.

З усяго таго матэрыялу, якім карыстаўся „Кам. Трох," найбольш цікаўным пэўна-ж зьяўляецца мемарыял Штрэзэмана, падаены 12 красавіка Гэн. Сэкрэтарыяту Лігі.

Зьмест гэтага, трэба прызнаць, вельмі добра уложанага дакумэнту — такі, у скароце. —

Ліга нацыяў гарантавала меншасьцям іх нацыянальнасьць, іх культурную самастойнасьць, язык і веру.

Гарантыя з боку Лігі-**агульная і неабмежная.** Яна прадбачыць сталы нагляд за выкананьнем забавязаньняў, накладзеных на дзяржавы трактатамі, а так сама — умяшаньне у разе нарушэньня гэтых забавязаньняў з боку дзяржаваў.

Ці можна лічыць, што гэтыя меншасьцявыя трактаты-толькі часовыя, што гэты стан у Эўропе —толькі „пераходны".?

Тут перад усім трэба раз назаўсёды прынцыпова вырашыць да чаго павінен весьці сучасны стан рэчаў, да чаго мае імкнуцца палітыка Лігі у гэтай ахове.

Ці — да таго, каб аблягчыць дзяржавам асіміляцыю меншасьцяў, ці наадварот да таго каб забясьпечыць культурна — нацыянальнае разьвіцьцё меншасьцяў, якое павінна устанавіць урэшце іх культурна—нацыянальную аўтаномію у дзяржаве, пры захаваньні іх поўнай лёяльнасьці адносна да апошняй.

Ня можа быць спрэчкі ў тым, што як самі меншасьці на падставе трактатаў, маюць праваісьці гэтым другім шляхам, таксама Ліга мае абавязак загарантаваць ім гэты шлях іх вольнага культурна-нацыянальнага разьвіцьця.

У кожным разе-яшчэ бясспрэчней тое, што тыя правы, якія прызнаны ім трактатамі, меншасьці павінны мець магчымасьць бараніць усімі законнымі шляхамі, ва ўсіх прадбачаных трактатамі інстанцыях — без таго, каб наклікаць на сябе абвіненьні, быццам яны робяць нешта нелегальнае, процідзяржаўнае.

Таксама і у Лізе няможна вінаваціць тых сяброў Рады ці Лігі, якія выступаюць на абарону меншасьцяў, найбліжэйшых ім па крыві, па культуры ці па веры, — у нейкім „умяшаньні у-ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы", ці у „падтрыманьні процідзяржаўных імкненьняў сярод гэтых меншасьцяў"...

Дзеля таго, што меншасьці наагул у апошнія часы неяк „ня чуюць над сабой апякунчай рукі Лігі Нацыяў, трэба, каб Ліга „яшчэ раз пацьвердзіла усе азначанныя вышэй, бясспрэчна выплываючыя з яе залажэньня прынцыпы — для таго, каб з аднаго боку ухіліць усялякія сумляваньні у сяброў Рады, а з другога, „каб вярнуць устрывожаным меншасьцям пачуцьце супакоеньня і даверра да Лігі"...

Так цікаўна „бараніў" самую ідэю Лігі пасьля 10 гадовай працы апошняй у галіне „аховы меншасьцяў"...

Ці-ж можна бы знайсьці лепшыя даводы яе кампрамітацыі?!.

Пасьля гэтай „прынцыповай часткі" Мэмарыял пераходзіць да разгляду дзеючай цяпер (фактычна-нядзеючай!) працэдуры (ці ходу скаргаў меншасьцяў) у Лізе—, паказывае, як фактычна Ліга выпаўняе свае абавязкі аховы. Скарга трапляе самперш у рукі Гэнэр. Сэкрэтара Лігі, які разглядае яе з боку фармальнага і мае права проста **кінуць яе у кош,** калі знойдзе у ёй нейкія найдрабнейшыя „нефармальнасьці"... Пры гэтым пан. Сэкрэтар **не абавязаны нікога** паведамляць-ані сяброў Рады, ані тых, што прыслалі скаргу, аб яе лёсе!..

Прызнаная сэкрэтаром „фармальнай" — скарга ідзе у „камітэт трох".

„Камітэт трох" часта зьмяняецца у сваім складзе,—таму ня можа накапіць ніякага дасьледу (опыту), здабыць шырокай і грунтоўнай веды у справах меншасьцяў наагул.

Штрэзэман прапануе, каб была створана у Лізе сталая камісія, якая-б выключна займалася справай меншасьцяў зьбірала і гуртавала увесь суадказны матэрыял, вывучала усе пытаньне ў цэлым.

Усе скаргі бяз вынятку павінны пастурапаць у гэтую камісію, якая разглядзеўшы і апрацаваўшы справу, дакладвае яе ў Радзе.

Апроч гэтай камісіі, можа быць у паасобных важных выпадках твораны і „камітэт" перароблены у „камітэт пяцёх"

Працы камісіі і камітэту трэба зрабіць **больш яўнымі, даступнымі** для публічнай апініі а перад усім-для абедзьвюх заінтэрасаваных староная, а ня толькі для аднэй дзяржавы, як цяпер.

Меншасьць, якая скардзіцца павінна ведаць дакладна і у патрэбным часе які ход мае яе справа у Лізе.

Камітэты павінны мець права трэбаваць ад дзяржаваў і меншасьцяў дадаткавых мэмарыялаў беззпасьрэдна.

Паседжаньні камітэтаў павін-

**Маленькі фэльетон.**

# На галодныя тэмы.

... „у павеце Браслаўскім амаль што ўсю акцыю (дапамогі гладаюшчім — ув. рэд.) сцэнтралізавана ў акцыйнай супольцы „Rolnik“—філіі Ральн.—Гандл. Цэнтралі (Вільня. Міцкевіча, 19)“.

... „За жытнюю муку казалі сабе „дабрадзеі“ з „Rolnika“ плаціць па 9 зл., у той час, калі ў жыдоўскай крамцы, можна было яе купіць па 7 зл. Калі ў адным часе не хапіла жытняй мукі пачалі выдаваць ячменную з гнілога ячменю, якога ўжо ніхто дабравольна не хацеў купляць“...

... „Пабачым, як будзе ў восень, калі селянін павінен будзе, каб аддаць доўг напрыклад за 5 пудоў ячменю—50 злотых—прадаць не 5, але 10, або 12 пудоў ячменю“... („Dzieńnik Wileński“, 4.VII. 29, Nr. 150).

Пакуль яшчэ сяляне даедалі апошнюю жменьку жыта, пакуль яшчэ хапала мерзлай бульбы,—было яшчэ так-сяк... ціха.

Але, як нястала бульбы, як пачалі мяшаць мякіну з карой і пячы гэта замест хлеба, як жывёла зьела апошні корм, нават стрэх саламянных ня стала, як голад з кожным днём пачаў усё больш і больш усеўладна панаваць пад сялянскімі стрэхамі, пачаўся патроху рух у мястэчку.

Першы застагнаў поп. Скардзіцца ён сваей матушцы:

— Сяляне нешта зьбяднелі: ахфяры зусім прынасіць перасталі.

— Кара Божа... кара Божа... распуста зусім па сьвеце пайшла хаўтурным тонам уторыць яму матушка.

А ксёндз проста з амбону на ўвесь касьцёл шуміць:

— Бальшавікі, камуністы, грамадзісты, бязбожнікі... кайцеся, малецеся, а браты-паляцы аб вас не запомняць.—Дапамога,--кажа, прыдзе і... голад, як рукой зьніме.

Уздыхаюць цяжка сяляне і ня ведаюць, каго слухаць, каму верыць, да каго зварачвацца.

Сабраліся грамадой і пашлі да войта.

Пабачыў войт грамаду і грамавым голасам крычыць:

— Чаго грамадой сабіраецеся ў адзін натоўп,—такога закону няма сабірацца, а смаркацца ў гміннай канцэлярыі не прыказана, бо плювачка ў кутку стаіць! Кажэце хутчэй, людзі, па якому вы дзелу?

— Мы — галодныя,—каб дапамогу якую...

— Гм, галодныя... дапамогі?!. Няма чаго тут падлогу таптаць,— учора памылі,— р-р-р-азай-дзісь па хатах,— кажу вам, што няма ніякага зажондзэня наконт голаду, дый усё! Пачакаць трэба,— начальства ўсё думае,— можа яно важнейшыя ад вас, дуракоў, справы мае. *Джві замыкайце!*— сьляпыя ці што, ня бачыце, што на дзьвярах, як бык, стаіць. . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Тымчасам, падкія на сэнсацыі газэты, рады што новую тэму знайшлі:

### Голад на „Крэсах“.

Ну і пайшла пісаць губэрня!— хто ў плот, хто ў гарод.

Панаехала да нас розных корэспондэнтаў, рэфэрэнтаў, студэнтаў.— Голад на „Крэсах“... „бадаць“ будуць.

Каму голад, а ім маслянка.

Сьнедаюць у ксяндза, абедаюць у абшарніка, начуюць у настаўніцтва, дый іх усё пра голад распытваюць.

А як настане вечар, дык рэстаўрацыя і клюб асаднікаў аж гудзяць, як у пекле.— Гэта прыездныя паны „заходнюю культуру“ паказваюць:

— *Музыка, Чарльстона! — Музыка, Блэк-Ботона! — Музыка, Обэрна! Краковяка!* і гэтак аж да раніцы...

Вокны дрыжаць ад скокаў. Хлопаюць коркі. Паненкам у галоўках круціцца. Панічы часамі за чубы бяруцца,— сваю гарачую „блэнкітную“ кроў паказваюць. А буфэтчык на ўсё пацешлівым вокам узіраецца:— добра ідуць „інтэрэсы“ ў галодны год!..

Днём, паны-корэспондэнты, як толькі ўбачаць дзе селяніна на вуліцы, дык ганяюцца за ім з апаратам, як за папуасам якім з афрыканскай пушчы, усё наровяць яго сфатаграфаваць, як „*дзівны оказ глодуёнцэго з-под Дзьвіны*“.

Убачаць дзе каня, як з голаду салому са страхі зьдзірае, таксама фатаграфуюць, — гэта, — кажуць „*дзівнэ звычае у коні на „Крэсах*“.

Дзяўчатам сялянскім таксама прайсьці не даюць. Дайшло нават да таго, што мацеркі сваіх дарослых дачок амаль на ключ зачыняць сталі.

— Хай,— кажуць—лепш дома сядзяць, і так самім няма чаго есьці, а тут яшчэ чужіх байструкоў карміць прыдзецца!

Ведама народ, цёмны, скуль там бабы пра „Заходнюю культуру“ знаць што будуць. . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Але нарэшце прыйшла і **дапамога**. Солтыс, як сьлед, паведаміў народ:

— Ідзеце,— кажа, там у супольцы „Rolnik“ дапамогу даюць.

Пабег народ, хто з чым: з вазамі, бабы з ведрамі, з кашамі.

Яшчэ цёмна. Паны ў супольцы сьпяць, а народ ужо пад дзьвярмі таўпіцца.

Пунктуальна а гадз. 9-ай па сярэдне-ўрапэйскаму часу (усюды культура!) адчынілі паны сваю супалку.

— Каму мукі жытняй?

Сяляне аж сьцяной папёрлі, вядома кожны галодны стараецца хутчэй захапіць, пакуль усей не разабралі. Некаторыя мацаюць, нюхаюць мяшкі,—даўно пах мукі чулі.

— Чаго тут нюхаць, ды мацаць,— злуе загадчык супалкі,— плаці, 9 злотых за пуд, забірай ды выхадзі,— няма чаго тут іншым месца займаць.

— Як? — дзевяць злотых за пуд, гэта-ж у прыватных крамках таней.

— Ды што вы нас з прыватнымі крамкамі раўнуеце? — можа там якая мука нелегальная, кантрабандай з-за граніцы прывезеная, а ў нас — праўдзівы „*выруб краёвы*“—мука пазнанская!

Некаторыя сунуліся да выхаду.

— куды вы,— загарадзіў ім дарогу загадчык.

— Пойдзем лепш у краму...

— Эгэ... у краму... да жыда... мы вам дабрачыннасьць робім,— бярэце бяз грошай, калі за грошы ня хочаце!

Чаго доўга думаеш, Зарэцкі, падпісывай вэксаль, дый бяры колькі хочаш, — у восень, як памалоціш, дый памелеш, дык аддасі.

Заахвоціўся Зарэцкі, а за ім і другія сяляне.

— Што-ж,— кажуць,— голад ня цётка, абы каб да восені пракарміцца, тут чорту душу прадасі, ня толькі вэксаль падпішаш!..

Жанчыны, дык тыя больш ячменю пытаюцца. Ведама, з ячменю і бліны і аладкі і зацірка і клёцкі,

— Ёсьць ячмень, толькі бярэце хутчэй, бо хутка магазын зачыняем.

Патупалі, патупалі цёткі каля ячменю, дый адказваюць:

— Калі-ж ён гнілы, за вярсту тухлінамі чутно.

— Што, гнілы?!—а якога-ж вы захацелі? Відаць мала яшчэ голад душыў, калі пачалі тухліну ў ячмені разьбіраць. Дома мяківу з карой ядуць, а тут тухліну чуюць.

— А яка-ж цана?—адазваліся некатарыя,

— Што?—гэта-ж у крамах добры ячмень таней, а тут гнілы па дзесяць злотых!

— Дый чаго вы прычапіліся са сваімі крамамі?! Крама, гэта — крама, там можа быць таней, а ў нас ня можна... Вось надаедлівы народ, нават, дапамогі браць ня хочуць! . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло некалькі месяцаў з тэй пары. Жыта пачало налівацца і бялець. Дзякуючы спрыяючай пагодзе знадзяюцца добрагаураджаю. Цешацца людцы, але ня ўсе, некаторыя з сумам скрабуць сабе галавы, прыгаварваючы:

— І на ліха я браў тую дапамогу!—як прыдзе восень, дык прыдзецца ўдвайне-трайне аддаваць,— што-ж сабе застанецца?!

*Я. М*

# З газэт.

## Што кажуць Саветы аб угодках Вэрсальскага трактату?

Нядаўна польская буржуазія гучна сьвяткавала ўгодкі Вэрсальскага трактату. Газэты пазьмяшчалі вялікія артыкулы, дзе выхваляліся ўсе „дабрадзействы“ гэтага „гістарычнага акту“. Шмат у якіх гарадох адбываліся маніфэстацыі.

Зусім інакш глядзіць, зразумела, на справу савецкая прэса. „Рэчпаспалітая“ № 181 з дня 6 ліпня г. г. зьмясьціла артыкульчык, дзе чытаем:

„Маскоўскія „Ізвестія“ друкуюць некалькі артыкулаў пад адным загалоўкам: „10-цілецьце версальскай трагэдыі“ у адным з тых артыкулаў газэта праводзіць параўнаньне тэарытычных абаснаваньняў, зьмешчаных у 14 пунктах Вільсона, з сапраўднасьцю, створанаю вэрсальскім трактатам, даводзячы, што сапраўднасьць гэта застаецца ў яскравай супярэчнасьці з шляхотнымі пабудкамі Вільсона. У іншым артыкуле газэта даказвае, што вэрсальскі супакой ня прычыніўся ў ніякай ступені да вызваленьня азіяцкіх народаў

Два наступныя артыкулы складаюць гістарычныя ўспаміны з вэрсальскіх дагавораў, таксама з праэктам прамовы гр. фон Брокдорф-Ранцаў, які не захацеў сказаць гэтай прамовы перад падпісаньнем трактату, у канцы артыкул пад загалоўкам: „Вялікая дэкляраця імпэрыялістычнага нявольніцтва“ ацэньвае вэрсальскі трактат як „найагіднейшы з усіх пакаёвых трактатаў“. Аўтар артыкулу кажа, што вэрсальскі супакой ня прынёс канца войнам, ані збраеньням, падзяліў Эўропу на дробныя дзяржавы, здэзарганізаваў яе у культурным і гаспадарчым жыцьці, стварыў палітычны хаос, устрымаў разьвіцьцё рэвалюцыйных імкненьняў і прысьвяціў імпэрыялістычнае рабства ў каленіяльных дзяржавах. Да гэтага часу дзяржава саветаў была адзэй дзяржавай, якая выступіла збройна проці вэрсальскага трактату. Сучасная Польшча ёсьць вэрсальскім творам, але падставаю й безпасярэдняй гістарычнай умовай незалежнасьці польскага народу ёсьць расейская рэвалюцыя і кастрычнікавы пераварот, дзякуючы якому была зрэалізавана тэорыя самаазначэньня народаў.

Аўтар артыкулу мае перакананьне, што рэвалюцыйны пралетарыят Эўропы ня будзе доўга чакаць на зьніштажэньне версальскай сыстэмы.“

Апошнімі часамі ўся прэса, а перадусім буржуазыйная пасьвячае шмат мейсца т. зв. „Чырвонаму Дню“ 1-га жніўня, які вызначаны VI кангрэсам Комінтэрну, як дзень барацьбы супроць імпэрыялістычных войнаў.

„Глос Праўды“ піша:

„Масква. Ад пэўнага часу ў Савецкай Расіі можна заўважыць імкненьне да ўзмацненьня ўплываў у чужых дзяржавах праз ідэёва крэўныя палітычныя і сацыяльныя арганізацыі.

Дзеяльнасьць Комінтэрну, якая праз нейкі час сьціхла, цяпер па правядзеньні ўвутранай санацыі (аздараўленьня) ізноў значна заварушылася. Першаю спробаю і адначасна маніфэстацыяй камуністычных сілаў маецца быць дзень 1-га жніўня, т. зв. „Чырвоны дзень“, наладжваны пад лёзунгам абароны Савецкага Саюзу і пратэсту супраць ваенных прыгатаваньняў капіталістычных дзяржаваў, накіраваных супраць С.С.С.Р. Ужо сяньня пішацца аб вядзеньні камуністычнымі партыямі розных краёў прыгатаваньняў да належнага правядзеньня гэтых маніфэстацыяў“.

„Кур'ер Варшаўскі“ з 8-га ліпня г. г. піша:

„*Новае камуністычнае сьвята*“. Паводлуг вестак „Чырвонае Зьвязды“ дзень 1-га жніўня па пастанове 3-га Інтэрнацыяналу, павінен быць пераглядам рэвалюцыйных сілаў Інтэрнацыяналу. Газэта заклікае камуністаў усіх краёў да прыняцьця лічнага ўдзелу ў маніфэстацыях у гэты дзень і прыпамінае, што гэта маецца быць пробай сілаў у адносінах да „буржуазных“ урадаў.

Яўрэйскі „Овэнт Кур'ер“ з 7-га ліпня піша: *Вялікія прыгатаваньні да ўгодкаў выбуху сусьветнай вайны.*

*Бэрлін.* З Масквы даносяць аб дзейнасьці Галоўнага Камітэту, маючага прыгатаваць у дзень 1-га жніўня ў угодкі выбуху вайны, вулічныя выступленьні работнікаў у Эўрапэйскіх цэнтрах.

У Аўстрыі прадбачацца вялікія вулічныя дэманстрацыі і мітынгі работнікаў. Аўстрыйскія камуністы выступаюць пад лёзунгамі: „да абароны С. С. С. Р.“ „Барацьба супраць імпэрыялістычных войнаў“. „Выгнаць з фабрыкаў фашыстаў“.

З Францыі атрыманы весткі аб узмоцненай камуністычнай агітацыі сярод работнікаў з мэтай абвешчаньня агульнай протэстацыйнай забастоўкі ў дзень 1-га жніўня“.

# Пісьмо ў рэдакцыю.

У РЭДАКЦЫЮ „СЬВЕТ“
Вільня
Вялікая вул. 3-10.

Гэтым Беларускі Сялянска-Работніцкі Пасольскі Клюб просіць Паважаную Рэдакцыю зьмясьціць далучанае тут высьненьне.

### Высьненьне.

У Цэнтральны Сэкрэтарыят Беларускага Сялянска—Работніцкага Пасольскага Клюбу прысылаюць лічныя пісьмы з просьбай аб высыланьні інструкцыяў і Статутаў у справе залажэньня партыйных Сэкрэтарыятаў і Гурткоў Б. С. — Р. П. К. на вёсках.

Беларускі Сялянска-Работніцкі Пасольскі Клюб разумее і падзяляе імкненьні і тугу шырокіх працоўных пластоў беларускай вёскі і места па сваей легальнай палітычнай партыі, якую-б хацелі мець.

Клюб па магчымасьці мае замер зрэалізаваць гэтыя жаданьні шырокіх мас, а пакуль што падае да ведама: 1) Беларускі Сялянска-Работніцкі Пасольскі Клюб ня ёсьць партыя, а таму ніякіх партыйных Статутаў, праграмаў і інструкцыяў ня мае, 2) Сябрамі Клюбу ёсьць толькі паслы, 3) заложаныя ў паветах Сэкрэтарыяты ёсьць інстытуцыямі Клюбу і вядуць працу ад імя Беларускага Сялянска-Работніцкага Пасольскага Клюбу.

**Беларускі Сялянска—Работніцкі Пасольскі Клюб.**

Рэдактар — Выдавец АЛЬЖБЕТА МАЛЬЧЭЎСКАЯ. Беларуская друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Людвісарская